# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.



№ 2 (58) 14-20 студзеня 1994 г. Кошт 100 рублёў

## Сьвяточная вечарына

7 студзеня ў будынку школы № 22 Горадні была наладжана сьвяточная вечарына, прысьвечаная Нараджэньню Хрыстову. У ёй прынялі ўдзел прадстаўнікі гарадзкіх суполак БНФ, БСДГ, ТБМ, аб 'яднаньня імя К. Каліноўскага, клюба «Паходня» і проста нацыянальна сьвядомыя беларусы і члены іх сем 'яў. Пры сьвечках і пад звон келіхаў яны адзначылі Нараджэньне Выратавальніка.

У пачатку вечарыны была прачытана «Малітва за Беларусь». З сьвяточнымі віншаваньнямі да прысутных зьвярнуліся дацэнт ГДМІ А. Астроўскі, народны дэпутат РБ М. Маркевіч, старшыня гарадзкой Рады БНФ К. Жынь і іншыя. Потым хор «Паходня» выканаў рэлігійныя і калядныя песьні. Дзецям было прапанавана разгадаць назвы страў, прыведзеныя ў главе «Куцьця» паэмы Я. Коласа «Новая зямля», і яны пасьпяхова справіліся з гэтым. Жадаючыя прачыталі любімыя вершы. Увазе прысутных было прапанавана тэатралізаванае прадстаўленьне сьвяткаваньня Калядаў. Калядоўшчыкі сьпявалі народныя песьні, прыпеўкі; танцавалі, жартавалі.

**А. ДУК.**

Фатаграфаваў **А. УЛАДАСЕВІЧ.**





## Каляды ў Капцёўцы

Мала хто памятае, калі апошні раз у Капцёўцы адбывалася калядаваньне. Адно, што нагадвала калядныя традыцыі,— гэта жарты моладзі.

У гэтым годзе вяскоўцы вырашылі невялічкім гуртом паспрабаваць аднавіць мінуўшчыну — прайсьці па хатах з каляднай песьняй, якую ім знайшла вясковая настаўніца гісторыі.

У першую чаргу ўсе калядоўшчыкі абышлі свае хаты, павіншавалі бацькоў і родных, а потым Каляднае сьвята пракацілася па ўсёй вёсцы. Некаторыя гаспадары, няведаючы, што адбываецца калядаваньне, выбягалі з хатаў бараніць сваю маёмасць, але калі чулі сьвятую песьню і вызначалі, што прыйшлі калядуючыя — сардэчна запрашалі ў хату і былі вельмі ўдзячныя і задаволеныя віншаваньнямі.

Калядоўшчыкам выносілі вяндліну, кілбасы, сала, пірагі. Адроджаную мясцовымі сябрамі БНФ Каляду вырашылі праводзіць штогод.

**М. БАЎСЮК.**

## Рубель зьніжае абароты

Значна зьменшылася колькасьць жадаючых на Гарадзенскім рэчавым торжышчы набыць расейскія рублі, што пацягнула за сабой паніжэньне курсу рубля ў адносінах да разьліковых білетаў Нацыянальнага банку Беларусі.

Так, у нядзелю 9 студзеня за рубель давалася ўсяго 2 «зайчыкі».

Дарэчы, тое самае назіраецца і ў мяняльных пунктах банка «Комплекс», дзе рубель у адносінах да іншых валютаў таксама здае свае пазіцыі.

Ня ўтрымаўся на сваім узроўні і даляр. Зараз пры продажы з рук ён каштуе ўсяго 4000-4200 беларускіх рублёў.

**Г. У.**

## Даляр падае, цэны растуць

У перадНавагоднія дні здарылася неверагоднае. Курс амэрыканскага даляра, які на працягу двух месяцаў вырас больш чым удвая, пачаў імкліва падаць. За тры дні ён зьменьшыўся амаль на тысячу. Людзі падумалі, што вось ён — доўгачаканы пачатак стабілізацыі. Але ўсё намнога прасьцей. Па-ранейшаму Новы год застаецца самым галоўным і чакаемым сьвятам. І сустракаць яго на Беларусі прывыклі, як на Захадзе Нараджэньне Хрыстова, годна: за багатым сталом, з падарункамі, нездарма існуе меркаваньне,—як Новы год сустрэнеш, так і пражывеш. Рыхтуюцца да яго загадзя, таму, каб інфляцыя не з'ела «зайцоў», іх абменьвалі на даляры ці дойчмаркі. Напярэдадні сьвята адбылося адваротнае. І пачаў даляр падаць.

Але пасьля сьвята ўсе хутка працьвярэзелі і кінуліся зноў у крамы, бо прайшлі чуткі, што павышаюцца цэны на мясамалочную прадукцыю, цукар, хлеб, сьмятанковае масла. Кожны набываў, колькі дазваляў прадавец і зьмесьціва кашалька. Чуткі спраўдзіліся: з 5 студзеня падаражалі ўдвая вяршкі і сьмятана і ў 1,5 раза — малако, кефір, тварог і дзіцячыя сумесі. А на каляды грамадзяне атрымалі чарговы «падарунак»: амаль удвая навязліся цэны на мяса.

## Білеты даражэюць

Папярэднія касы чыгуначнага вакзала Горадні прадаюць білеты на адзін і той жа цягнік па розных цэнах: калі ён адпраўляецца ў першай палове студзеня — па адной, калі ў другой — па іншай. Справа ў тым, што Беларускай чыгункай з сэрэдзіны бягучага месяца ў 2,5 раза павышаюцца кошты. Таму, каб набыць адзін білет у плацкартны вагон да Масквы, трэба заплаціць 13.465 рублёў (без камісійнага збору), да Менска — 3.500.

**А. Д.**

# 40% ад мінімальнага заробку за шкоднасьць

Ужо напрыканцы працоўнага дня ў рэдакцыі «Пагоні» зазьвінеў тэлефон. Голас у трубцы папярэджваў, што зубныя тэхнікі абласной дзіцячай паліклінікі ў знак пратэсту на нізкія заробкі аб 'яўляюць забастоўку.

Калі прыйшоў у зубапратэзнае аддзяленьне паліклінікі, то першае, што кінулася ў вочы — гэта некалькі маладых хлапцоў, якія імпэтна даказвалі адзін другому аб шляхах вырашэньня пытаньня.

Юра (прозьвішча не пажадаў называць) — зубны тэхнік з амаль дзесяцігадовым стажам: «Наш галоўны лекар мала дбае пра зубапратэзнае аддзяленьне. Ёй галоўны клопат — лекі, пра якія больш за ўсё баліць галава. У нас жа заробак усяго 75 тысячаў рублёў, а ў многіх сем 'і, з якімі яны жывуць на зарэндаваных кватэрах. Каб аплаціць жытло, ідзе ўся зарплата. А на што ж тады жыць? Добра, калі працуе яшчэ жонка, а калі яна ў дыкрэтным вотпуску, то адкажыце — як пражыць на такі марны заробак?»

Аляксандр Ваўковіч — самы малады з тэхнікаў: «Увогуле я спадзяваўся ў гэтым месяцы зарабіць хоць крыху, бо абяцалі выплаціць грошы за шкоднасьць. На рукі я атрымаў усяго. 24 тысячы рублёў, ды 40 тысячаў авансу, што несьці да дому — нават ня ведаю».

Самы сталы з тэхнікаў таксама не згадаў сваё імя, але ў рэчышчы сказанага дадаў, што зубныя тэхнікі як ніколі мала зарабляюць. «Справа ў тым; што народ зьбяднеў, а мы працуем на гасразьліку. Тут неабходна шукаць нейкія новыя формы працы і аплаты яе».

На жаль, трапіць да галоўнага лекара разам з забастоўшчыкамі я не змог — скончыўся працоўны час. Затое на наступны дзень, дзякуючы тэлефоннай сувязі, з Н. Г. Гукавай атрымалася цікавая гамана.

Н. Г. Зубныя тэхнікі? Дык яны ж працуюць па зьдзельнай форме аплаты працы. Колькі зарабяць, столькі і атрымаюць. Тут ёсьць пэўныя пастановы ўраду, так што я тут ні пры чым.

Кар. Якая форма налічэньня даплаты за шкоднасьць?

Н. Г. Гэта не мая кампэтэнцыя, звяніце ў бухгалтэрыю гарадзкога аддзелу аховы здароўя.

Званок галоўнаму бухгалтару гораддзела аховы здароўя істотна ня высьветліў пытаньня. На запыт карэспандэнта галоўны бухгалтар адказала, што ўсе разьлікі за вытворчую шкоднасьць выконваюцца шляхам налічэньня працоўным 40% ад мінімальнай зарплаты. На гэта, як высьветлілася, існуе адпаведная пастанова міністэрства.

У гэтай звычайнай для нашага часу гісторыі можна было б паставіць кропку, калі б не адна акалічнасьць. Усе зубныя тэхнікі выказвалі адно — што ім з боку кіраўніцтва паліклінікі надаецца мала ўвагі. Ніхто не дбае пра тое, як знайсьці новыя формы працы цэламу аддзяленьню, як палепшыць умовы іх працы і як, нарэшце, зафіксаваць гэта заканадаўча. У той жа час у паліклініцы працуе цэлы штат кіраўніцтва, якому па кампэтэнтнасьці вырашаць такія вось пытаньні.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Хто кіруе чаргой?

Забыўшыся пра праблемы выхаду сваёй краіны з крызісу, прэм 'ер-міністр Беларусі В. Кебіч напярэдадні сьвята Божага Нараджэньня, як паведаміла Прэс-Служба радыё «Свабода», заявіў, што спачатку у НАТА павінна ўступіць Расея, а тады ўжо Летува, бо, маўляў, адбудзецца раскол у Эўропе.

Дазвольце лічыць гэтую заяву непрадуманай. Асабліва ўлічваючы той факт, што сувэрэнная Летува аддала свой голас у ААН за Беларусь, калі былі выбары непастаянных сяброў Савета Бясьпекі.

**А. БАШКО.**





# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## А. Лукашэнка супраць С. Домаша?

Ня ведаю, ці знаёмыя гэтыя асобы паміж сабою?

Аднак няюбачнае змаганьне, здаецца, распачалося. І першым кінуў пальчатку нардэп Аляксандр Лукашэнка. Увогуле, ягонае стаўленьне да Гарадзеншчыны рэзка адмоўнае. Кажуць, што былы старшыня калгаса моцна пакрыўдзіўся на наша кіраўніцтва пасьля свайго наведваньня вобласці некалькі месяцаў назад. Як старшыня часовай парламенцкай камісіі па вывучэньні дзейнасьці камерцыйных структур пры ворганах дзяржаўнай улады і кіраваньня, ён сабраў у зале пасяджэньняў аблвыканкама савецка-гаспадарчы актыў і распавёў пра справы, аб якіх іншыя прысутныя не вельмі хацелі б гаварыць услых. Назваў і пэўныя прозьвішчы.

Як хлопчыкі, сталі перад «нязломным» дэпутатам нашы сілавыя кіраўнікі і рабілі справаздачы. А вось начальнік УКДБ быў заняты на службе і таму ня змог прыняць удзел у гутарцы. Лукашэнка ўгневаўся: як гэта, нейкі кадэбіст наважыўся не зьявіцца перад візіцёрам з Менска!..

Так гэта ці не, аднак у вядомым дакладзе на сэсіі Вярхоўнага Савета спадар (ці ўсё ж таварыш?— В. З.) Аляксандр Лукашэнка пляжыў Гарадзеншчыну па ўсіх пазіцыях. Дзеля прадмета нашай гаворкі трэба пацытаваць адно выслоўе Аляксандра Рыгоравіча: «...А Гродна і пасьля сьмерці старшыні аблвыканкама мае патрэбу ў асаблівай пільнай увазе праваахоўнікаў: там, як лічыць наша камісія, па сутнасьці падарваны асновы законнасьці. І не трэба эйфарыі, што, маўляў, цяпер да кіраўніцтва вобласьцю прыйшла новая хваля. Паводле нашых дадзеных, гэта ўсяго толькі сьвежая пена на той, старой, мутнай хвалі».

Запомнім выказваньне. Яно надрукавана ў газэце «Зьвязда» за 15 сьнежня. Бо праглядаецца цікавая паралель. Але найперш закончым думку, наклікаю сьмелай заявай дэпутата. Як вы думаеце, што павінны пасьля такой характарыстыкі рабіць начальнікі абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў, пракурор вобласці, той жа начальнік УКДБ, асобы, якія курыруюць у абласным Савеце праваахоўныя органы? Правільна, павінны падаць у адстаўку, калі факты адпавядаюць рэальнасьці. Ці паклікаць народнага дэпутата Беларусі А. Лукашэнку ў суд, калі Аляксандр Рыгоравіч нешта перабольшыў, перабільшыў ці назваў неправерана дадзеныя. Бо назваць злачынцу злачынцам можа толькі суд, і ніхто больш.

Думаецца, што на чарговай сесіі абласнога Савета заяве А. Лукашэнкі будзе нададзена ўвага. Мажліва, яго запросяць выказаць тыя таямнічыя данныя, на якія спаслаўся старшыня часовай дэпутацкай камісіі. Калі пайшла вялікая гаворка, то трэба раскрываць усе карты, а не абмяжоўвацца празрыстымі намыслымі.

Каго абзывае А. Лукашэнка сьвежай пенай на старой хвалі, таксама сакрэту вялікага няма. Найперш — цяперашняга старшыню аблвыканкама Сямёна Домаша, чалавека, які не адпрацаваў на сваёй новай пасадзе нават ста дзён, які пакуль што толькі старанна вывучае палітыка-эканамічны ста[illegible]абласьці і г. д. Можна параіць [illegible]мёну Мікалаевічу некалькі спосабаў уздзеяньня на неўтаймаванага крытыка: мужчынская размова адзін на адзін, выклік на тэледуэль, супастаўленьне пазіцый у судзе, запраш[illegible]е А. Р. Лукашэнку прыняць уд[illegible] у рабоце абласной сэсіі... Вядома, калі наш губернатар не чуе за сабой аніякай віны і ўспрымае закіды Аляксандра Рыгоравіча, як паклёп.

Дарэчы, Сямён Мікалаевіч цяпер таксама народны дэпутат Беларусі, абраны па Астравецкай выбарчай акрузе 19 сьнежня мінулага года. Так што ў кулуарах Вярхоўнага Савета, у час работы сесій яго чакае вельмі прыемная сустрэча з чалавекам, які абвінавачвае ў нейкіх грахах.

Вядома, нашы парады — гэта жарт. Хаця жарт жартам, а ў прыстойным грамадзтве асобе на кшталт А. Лукашэнкі пасьля публічных заяў такога накірунку, прычым не абгрунтаваных доказамі,— рукі не падаюць.

Назіральны чытач ужо адзначыў для сябе дзьве лічбы — 15 і 19 сьнежня. 15 чысла даклад . Лукашэнкі быў надрукаваны ў прэсе, а 19 — старшыня Гарадзенскага аблвыканкама С. М. Домаш быў абраны дэпутатам Вярхоўнага Савета.

Дык ці выпадкова Аляксандр Лукашэнка так многа ўдзяліў ўвагі Гарадзеншчыне, абвінаваціў многіх яе кіраўнікоў у карупцыі якраз напярэдадні выбараў Сямёна Мікалаевіча? Ці не выконваў сацыяльны заказ, спрабуючы прыведзенымі фактамі перашкодзіць выбранню С. Домаша. Відавочна, камусьці косткай ў горле стала зьяўленьне менавіта С. Домаша кіраўніком вобласьці. Нехта вельмі быў незацікаўлены і ягоным зьяўленнем як дэпутата ў Вярхоўным Савеце. Нарэшце, было б вельмі цікавым даведацца, хто падкінуў дакладчыку кампрамат, які дагэтуль кампэтэнтнымі ворганамі не пацьверджаны. Навошта было А. Лукашэнку паўтараць факты, даўно абвешчаныя ў прэсе. Ці спадзяваньне на тактыку — чым больш, тым лепш? Галоўнае заявіць, а там няхай разьбіраюцца?.. Хто ж стаіць за вамі, Аляксандр Рыгоравіч?

Здаецца, далёка ня бяскрыўдная палітычная гуль[illegible]распачынаецца на нашых вачах. Ід[illegible] рэзкая палярызацыя грамадства, цягнуць кожны ў свой бок. Мэтады, як бачым, джэнтэльменскім падыходам не вызначаюцца. Усе сродкі да ладу, бо канечная мэта — ўлада з у[illegible]і яе дабротамі. Да яе, улады, чужы[illegible]ў так проста не дапусцяць, тым больш з прагрэсіўнымі поглядамі. Вакансій не прадугледжана.

**В. ЗАДАЛЯ**

**дэпутат абласнога Савета, па[illegible]лаг.**

## ЗВАРОТ да дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь

Выказваем абурэньне непрыстойнай валтузьнёй дэпутатаў вакол пытаньня аб дзяржаўнасьці беларускай мовы. Хопіць ганьбіць беларускі народ, яго сьвятую мову й культуру! Хопіць спэкуляцый вакол таго, што 90% беларусаў нібыта гаворыць парускy. Гэта хлусьня. У выніку антыбеларускай моўнай палітыкі пераважная большасьць беларусаў, як і дэпутатаў ВС, сёньня не гаворыць па-руску, не гаворыць па-беларуску, а гаворыць на трасянцы — мове неадукаваных людзей. І гэта ёсьць сапраўдны інтэлектуальны Чарнобыль, пра які ня можна маўчаць, бо цэлы народ пазбаўлены магчымасьці адэкватна ўспрымаць навакольны сьвет з-за штучнага разбурэньня нацыянальнай логікі мысьленьня, што фіксуецца ў будове роднай мовы. Гэта сталася вынікам двухсотгадовай каланіяльнай палітыкі. Усякія спробы ўвесьці ў Канстытуцыю прамое ці ўскоснае двухмоўе — ёсьць працяг старой палітыкі духоўнага закабаленьня беларускага народу, накіраваны на падаўленьне пачаўшагася было працэсу нацыянальна-культурнага адраджэньня.

Мы зьвяртаемся да дэпутатаў Вярхоўнага Савету з патрабаваньнем спыніць ганебныя гульні вакол дзяржаўнасьці беларускай мовы, нацыянальных сымбаляў беларусаў. Нам не патрэбна каланіяльная Канстытуцыя, нам не патрэбна каланіяльная адміністрацыя. Нам патрэбна Канстытуцыя сувэрэннай і дэмакратычнай Беларусі, нам патрэбен Урад нацыянальнага даверу й новы легітымны Вярхоўны Савет.

**Гомельская гарадская кансультатыўная Рада «Адраджэньне».**
**Гомельская Рада БНФ «Адраджэньне».**
**Гомельская арганізацыя БСДГ.**
**Гомельскае аддзяленьне НДПБ.**
**Гомельская Рада БХДЗ.**
**Гомельская суполка БЗВ.**
**Гомельская маладзёжная суполка «Талака».**
**Рада ТБМ імя Скарыны г. Гомеля.**

## Чаму Бірук склаў дэпутацкія паўнамоцтвы?

**Цяпер на ўсіх узроўнях вядзецца размова аб роспуску Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Вось і ў Горадні па ініцыятыве прафсаюзаў прамысловых прадпрыемстваў адбыўся мітынг, на якім была прынята рэзалюцыя з патрабаваньнем правесьці ў сакавіку бягучага года датэрміновыя выбары. Гэтага патрабуе большасьць грамадзян. Свае погляды на гэта выказаў у навагоднім віншаванні і старшыня Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіч, бо цяперашні склад парламента нэздольны вывесці краіну з эканамічнага крызісу, большасць народных дэпутатаў пагразла ў злоўжываньні ўладай.**

З Вярхоўным Саветам усё зразумела. Паўстае пытаньне: ці абнаўляць ворганы мясцовай улады? Прасты люд гаворыць, што трэба. Чаму? Таму што многія кіраўнікі і народныя дэпутаты злоўжываюць даверам народа, не праяўляюць клопату аб яго дабрабыце, а больш клапоцяцца аб сабе. Гэта падцьвярджае адзін выпадак.

— Хто ў вас самы актыўны народны дэпутат?— спытаў я ў старшыні Сапоцкінскага пасялковага Савета С. І. Гаўрыліка.

— А. А. Бірук,— доўга не думаючы, адказаў ён,— але ён склаў дэпутацкія паўнамоцтвы.

Не стаў я высьвятляць у Сьвятаслава Іванавіча чаму, а вырашыў сам сустрэцца з А. А. Біруком.

— Пачалася перабудова,— пачаў сваю размову Анатоль Андрэевіч,— і я падумаў, што наступілі часы справядлівасці, пашаны да чалавека, дэмакратыі. Па гэтай прычыне я і даў згоду балатавацца на альтэрнатыўнай аснове ў народныя дэпутаты пасялковага Савета і перамог. Пачаў выконваць свае дэпутацкія абавязкі сумленна. У пачатку быццам бы атрымлівалася, але ў хуткім часе пераканаўся, што нашы сэсіі праходзяць дзеля «галачкі». Пытаньні, якія разглядаліся, былі дробныя, не зьвязаныя з паляпшэньнем жыцьця людзей, развіцьцём эканомікі. Галоўным пытаньнем быў бюджэт, лічбы якога дыктаваліся зьверху, як у застойныя часы, дэпутатам толькі заставалася падымаць рукі. Усе справы вырашаліся дзесьці і кімсьці, але не намі. Узьнікае пытаньне: што мы зрабілі для сваіх выбаршчыкаў за гэты працаўны час? Адно, што далі некатарым па кавалку зямлі, але адмовілі тым, хто хацеў узяць больш, каб стаць фэрмэрам.

Рэдакцыя нашай раённай газеты «Сельская новь» яшчэ ў 1991 годзе адкрыла рубрыку: «Дэпутацкае права: гавару аб чым думаю». Я ж адкрыў сваім артыкулам: «Чаму даходы, нам — адыходы». Праз раёнку я і далей працягваў выступаць з крытычнымі артыкуламі, якія не спадабаліся многім чыноўнікам пасёлка і раёна. Тады знайшлі выхад: перасталі друкаваць мае матэрыялы. І рубрыка прапала. Аб чым гэта гаворыць? Аб тым, што газэта стала кішэннай у кіраўнікоў раёна. Што падыходзіць — надрукуем, а што не падабаецца — не. І скажу шчыра, што наша газэта ўсхваляе дасягненьні ў раёне, якіх няма, калі і ёсьць, дык сьціплыя.

Для мяне, як дэпутата і чалавека, Закон — аснова жыцьця і грамадскай дзейнасьці, якую я ўзяў дабравольна, але ня змог іх выканаць з-за таго, што кіраўнікі ўлады пассавета і раёна не жадаюць думаць па-новаму, а клапоцяцца пра свае асабістыя інтарэсы. Дэпутаты ня маюць ніякага ўплыву на развіцьцё эканомікі і сацыяльнага жыцьця рэгіёна, а толькі падымаюць рукі. Калі скажа высокае кіраўніцтва, зьяўляюцца, як бы тая ангельская каралева, якая царствуе, але не ўладарыць. Па гэтым і іншым прычынам складаю свае дэпутацкія паўнамоцтвы і заклікаю іншых гэта зрабіць.

***

Хто ж такі А. А. Бірук? Інвалід дзяцінства, няма адной нагі, таму ходзіць з дапамогай двух мыліц. Працаваў пэўны час выкладчыкам у ПТВ. Водгукі былых кіраўнікоў вучылішча пра яго добрыя.

Таму заслугоўвае увагі меркаваньне А. А. Бірука, што трэба праводзіць выбары дэпутатаў на ўсіх узроўнях. А што скажуць на гэта чытачы?

**І. БАРЫСАЎ.**

## Бедныя, бедныя «прыхватызатары»

Увогуле нашы абраньнікі, як сьведчаць словы аднаго з іх, што нядаўна выступіў з высокай трыбуны Вярхоўнай улады, ня зьніклі, а пераўтвараліся ў прыхватызатараў. Цікава, а што яны яшчэ прыхватызуюць, падпісаўшы штучны эканамічны саюз і рублёвую зону? Можа, штосьці адарвуць у старэйшага брата? Але для гэтага неабходна на поўную магутнасць ўзьняць ветразь дзяржаўнага карабля, каб пасьпець за набіраючым хуткі ход. Дзе з гэткай задачай справіцца, калі іх кевлыя, пяшчотныя ручкі дрыжаць, як у неапахмялёнага, не утрымаць ім дзяржаўную кіраўніцу на высокім ходзе. Ім бы ў зацішша, ды як небудзь утрымацца на плыву.

Дапаможнікі таксама слабыя — чырвоныя вэтэраны ды маўклівы народ. З вэтэранамі можа выйсьці нечаканасьць: наўзамен таго, каб упрагаць свае вопытныя, выпрабаваныя, але сухдалыя плечы ў прыхватызатарскую авантуру, яны накіруюць свае высілкі на збудаваньне фартыфікацыйных умацаваньняў бліз Кургана Славы, каб хоць як супрацьстаяць распаўзаньню карычневай чумы з Усходу. Праўда, такога павароту падзей беларускія змагары за нацыялізм з абавязковай пабудовай камунізму не чакалі. Іншая справа з Захаду, а тут якраз адтуль, адкуль пяціканцовая асьвяціла ўсім народам прывід камунізму.

Народ таксама трэба лекаваць, бо да нематы дабавілася яшчэ два небясьпечных дыягназы — сьлепата і глухата.

На каго ж разьлічваць прыхватызатарскаму авангарду?

**Г. У.**

*ГРАМАДЗТВА*

# Без кала і двара

**Жыльлёвая праблема ў нас амаль ці не равесьніца Кастрычніцкай рэвалюцыі. Бальшавікі, прыйшоўшы да ўлады, ўвялі размеркавальны прынцып атрыманьня кватэр. Станавіся ў чаргу, як па каўбасу, і чакай. Чакаць даводзілася вельмі доўга. І тым самым у людзей выхоўвалася апатыя, пакорлівасьць. Кватэры іншы раз служылі сродкам пакараньня няўгоднага начальству чалавека. Самому будаваць было складана. Ды асабліва і не дазвалялася.**

**У краіне, па-сутнасьці, ніколі не было канкрэтных, прадуманых жыльлёвых праграм. Была спроба нешта акрэсьліць у 1985 годзе, калі зьявіўся лёзунг: «Кожнай савецкай сям 'і — асобную кватэру да 2000 года!» Але да канца не падумалі, і праз некалькі год усё рухнула.**

Па афіцыйных зьвестках у чэргах на атрыманьне жыльля стаіць звыш 700 тысяч сем 'яў. З іх каля 40 тысяч — сем 'і ўдзельнікаў вайны, воіны-вэтэраны, воіны-інтэрнацыяналісты, ваенаслужачыя, звоЛеныя ў запас, ліквідатары вынікаў чарнобыльскай катастрофы, а таксама 175 тысяч маладых сем 'яў. А 76 тысяч сем 'яў увогуле не маюць ніякага жыльля ці жывуць на прыватных кватэрах, 148 тысяч пражываюць у інтэрнатах.

Сёньня час знаходжання ў чарзе на паляпшэньне жыльлёвых умоў складае 10-12, а ў асобных гарадах — да 20, а то і больш гадоў. Зразумела, што ўсё гэта вядзе да перакосу ў сацыяльным жыцьці. Сама структура жыльлёвага фонда таксама складалася без усялякага навуковага абгрунтаваньня. Будавалі, каб даць людзям хоць які-небудзь вугал. Таму дэфіцыт трох- і больш пакаёвых кватэр складае каля 20 працэнтаў.

У апошнія гады ўрад рэспублікі прыняў шэраг рашэньняў, якія дазваляюць узводзіць жылыя дамы ўласнымі сіламі. Сапраўды, такое трэба только вітаць. Бо гэта не толькі дазваляе скараціць чаргу на атрыманьне кватэры. Уласны дом можна ўзьвесьці і па добраму праэкту, і жыць утульна.

Усё было б добра, але ў пастанове урада № 165 ад 27 сакавіка 1990 года было сказана, што тыя, хто вырашыў узводзіць уласнае жыльлё, маюць права браць крэдыт пад 5 працэнтаў гадавых і выплочваць яго на працягу 40 гадоў — гэта нішто, ўлічваючы цяперашнюю інфляцыю. Акрамя таго, ў пастанове нічога не казалася пра тое, што такое права маюць толькі тыя, хто стаіць у чарзе на атрыманьне кватэры.

Паколькі пастанова распаўсюджвалася зьверху ўніз у першую чаргу, сярод намэнклатуры, то яна і кінулася яго выконваць. І пачалі расьці вакол гарадоў маёнткі. Зямельныя участкі пад забудову выдзяляліся па прынцыпу пратэкцыянізму: «патрэбным людзям», а не тым, у каго не было кватэры. «Нашумелі», напрыклад, барысаўчане, куды вымушаны нават быў паехаць Станіслаў Шушкевіч. Кіруючыя работнікі, маючы выдатныя добраўпарадкаваныя кватэры, узьвялі сабе шыкоўныя асабнякі. Шляхам розных апэрацый яны пакінулі сабе і старое жыльлё. Шушкевіч не змог нічога зрабіць.

Такое можна сустрэць у кожным горадзе. «Катэджная ліхарадка» захапіла нават тых, хто павінен, быў сачыць за законнасьцю. Так, у Бялынічах намесьнік начальніка міліцыі раёна незаконна захапіў зямельны ўчастак, дзе ўзьвёў сабе катэдж. Начальнік міліцыі па «ліпавых» дакумэнтах атрымаў крэдыт і пабудаваў дом свайму сыну, а пракурор, ведаючы ўсё гэта, нічога не зрабіў, каб не дапусьціць злоўжываньняў.

У той жа час мала што рабілася, каб скараціць шматтысячныя чэргі. Будаўніцтва жыльля ў дзяржаўным сэктары скарачалася. Асігнаваньні, якія былі, напрыклад, выдзелены ў рэспубліцы у мінулым годзе, не дазволілі нават закончыць раней пачатае будаўніцтва дамоў. Таму не дзіўна, што чарга на паляпшэньне жыльлёвых умоў нават вырасла.

Зразумела, ўраду прыйшлося ўносіць карэктывы ў свае пастановы. Цяпер зямельныя участкі і крэдыты выдзяляюцца толькі тым, хто мае патрэбу ў жыльлі. Працэнт выплаты крэдытаў узрос да 35. Але час упушчаны.

Вярхоўны Сав[illegible]ядаўна разглядзеў у першым чытаньні нацыянальную жыльлёвую праграму. У ёй выкладзены канцэптуальныя палажэньні жыльлёвай палітыкі. На першым этапе (1994—1996 гады[illegible]адугледжваецца стабілізацыя аб 'ёмаў жыльлёвага будаўніцтва на ўзроўні, дасягнутым у канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў. Мяркуецца, што дзяржаўныя сродкі ў будаўніцтве кватэр складуць 64 працэнты. Але улічваючы цяперашняе складанае становішча, калі даражэюць будаўнічыя матэрыялы, энэрганосьбіты, нельга сьцвярджаць, што запланаванае выканаецца. Таму тым, хто хоча атрымаць кватэры, варта спадзявацца на свае сілы. Тым больш, што дзяржава будзе заахвочваць індывідуальнае будаўніцтва. Так, пасьля 2000-га года мяркуецца 80—85 працэнтаў дзяржаўных асігнаваньняў выдзяляць менавіта на гэта.

А пакуль непасрэдна з дзяржаўнага бюджэту будзе фінансавацца толькі мэтавае будаўніцтва жыльля, якое прызначаецца для ільготных катэгорыяў грамадзян.

Тысячы людзей аказаліся падманутымі. Яны стаялі ў чарзе, з іх падаткаў ствараўся цяперашні жыльлёвы фонд. Каб неяк кампэнсаваць гэта, ім прадугледжаваецца выплочваць субсыдыі, памеры якіх вызначаюцца часам знаходжання ў чарзе, забясьпечанасьцю жыльлёвай плошчай, велічынёй даходу.

Выкупіць кватэры сёньня можа толькі адзін працэнт жыхароў рэспублікі. Таму тыя, хто мае патрэбу ў жыльлі, няхай не губляюць часу, а дабіваюцца крэдытаў і ўзводзяць свой дом. А пазыкі... пазыкі прыйдзецца аддаваць доўга...

Дзяржава падманула сваіх грамадзян. І спадзявацца на яе ня варта. Так, як і на новую праграму.

**Уладзімір СЕМЯНЦОЎ.**

# Уладзімір Ціханаў — рускі, які сьпяшае на Вэст

**Калі мне затэлефанаваў знаёмы і згадаў, што Вова Ціхан — так між сябе мы звалі Уладзіміра Ціханава — ад 'яжджае на Захад, мне не паверылася. Хто-хто, а Уладзімір заўжды быў патрыятычна настроеным расейцам. «Калі ня верыш,— працягваў знаёмы,— то прыходзь на праваслаўныя каляды на разьвітальную вечарыну, і сам пераканаешся».**

**... За гасьцінным сталом двухпакаёвай кватэры Уладзіміра на вуліцы Фамічова ў Горадні было людна. Казалася мноства прамоў, пажаданьняў і проста жартаў. Скарыстаўшы момант, калі госьці пайшлі пакурыць, я распытаў Уладзіміра аб прычыне яго раптоўнага ад 'езду.**

— Па-першае,— мне надакучыла слухаць хлусьню, жыць сярод народа, які даўно стаў духоўным банкрутам. Ведаеш , калісьці я быў за тое, каб панавала навокал усё расейскае. Зараз, калі мне за сорак, я зразумеў, якую небясьпеку нясе гэтае панаванне. Павер, я — рускі, каторы ніводнага дня не пражыў у Расеі. Таму заўжды жадаў квітненьня сваёй гістарычнай Бацькаўшчыне. На жаль, я памыліўся.

**— У чым жа заключалася твая памылка!**

— Памылка была ў сьляпым патрыятызме, ні болей, бо я ж, як і ўсе, любіў цытаваць Маякоўскага: «Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин». Вось гэтае выключнае права, якое прысвоіла партыя камуністых расейскай мове, і ўвяло ў зман. Прасьвятленьне прыйшло не адразу. Але два запар путчы мяне ахалодзілі.

**— І ты вырашыў уцячы!**

— Не адразу. Затрымліваў прадэкляраваны сувэрэнітэт. Але малапамалу гульні вярхоўнай улады з народам у кілбасу, дрэнных [illegible]акратаў і добрых партакратаў ц[illegible] чаму навучылі. Да таго ж падбухторваньне нейкай невядомай сілай вэтэранаў на крыжовыя паходы па аднаўленьню імпэрыі, як рэнгэнам, высьветлілі ўсе хібы нашага жыцьця.

**— Што ты заўважыў!**

— Ва ўладзе засталіся тыя самыя людзі, якія ўчора насілі кветкі да помніка Леніну. Сёньня яны вядуць іншыя размовы з высокіх трыбун. Калі штосьці яшчэ пераменіцца, то яны, як флюгеры, павернуцца і прысягнуць на вернасьць хоць Богу, хоць чорту. Ім бы толькі пагрэць рукі аб народнае дабро ды сядзець ва ўтульным фатэлі. Што яны і робяць. А каб забясьпечыць сабе годнае існаваньне, яны дзейнічаюць па прынцыпу — рабі чым горш, тым лепш. Потым усё можна будзе сьпісаць на недальнабачных дэмакратаў і нацыяналістаў: маўляў, вось яны развалілі такую краіну. І гэта, між іншым, дзейнічае. Находзяцца аматары, што нават са зброяй ў руках ідуць на актыўнае аднаўленьне камунізма — гэта палохае.

**— Толькі гэта ці што яшчэ!**

— Ты правільна заўважыў, ёсьць яшчэ моманты, якія ня радуюць.

**— Што ж гэта за моманты!**

— Адносіны беларускага народа да сваёй дзяржавы й прынцыпы пабудовы капіталізму на абшарах былога СССР.

**— Нешта ты тут усё зьмяшаў. Паспрабуй, калі ласка, па парадку!**

— Нядаўна я прачытаў у прэсе, што Масква і Санкт-Пецярбург — вядучыя гарады па колькасьці шыкоўных лімузінаў. Адсюль выснова — ёсьць капіталы ў прыватных руках, якія трэба як мага хутчэй пусьціць у справу. У Расеі зрабіць такое складаней, бо там кожны расеец мае правы на ўласнасьць. У Сярэдняй Азіі таксама рабіць бізнэс ня проста, сам жа ведаеш: «Усход — справа тонкая». Застаецца безабаронная Беларусь, якая да гэтага часу не прыняла адпаведных законаў, якія б абаранялі правы яе грамадзян. Вось сюды і накіроўваюць свае сродкі ценявыя міліярдэры Расеі, каб задарма скупіць усё — фабрыкі, заводы, землі. Зрабіць гэта будзе не складана, бо гэтаму патурае ўрад, разнастайныя пракамуністычныя аб 'яднаньні й вэтэранскія арганізацыі. Іх, як мне падаецца, выкарыстоўваюць на беларускай зямлі адпаведныя палітычныя колы Расеі наўмысна, каб рабіць сваю брудную справу. А пакуль яны вядуць бязьлітасную вайну супраць сувэрэнітэту, сымболяў Беларусі, прыватны капітал Расеі ўжо падрыхтаваў усё, каб эканамічна акупаваць Беларусь. Калі гэта адбудзецца, то новыя гаспадары не пацікавяцца, хто ты — расеец, беларус, паляк ці летувіс. Ім патрэбна будзе толькі працоўная сіла безабаронных жабракоў, якія на сваёй зямлі будуць бяспраўнымі наёмнымі рабочымі. Створыцца нешта накшталт Афрыкі ці Паўднёвай Амерыкі 18—19 стагоддзяў. Таму я і ўцякаю ад жабрацкай будучыні ў сьвет, дзе пануе закон і правы кожнага Чалавекам звацца.

**Занатаваў Г. АСТРОЎСКІ.**

Да хаты ўваходзіць разбэшчаны Фрыц і звонка камандуе: «Матка, млека, яйкі, хутка! . . »— «Паночку немец, так нічога ж у хаце няма...»— «Хутка, марш-марш, выходзь — я усё прывёз!..»

**(Сучасны анекдот).**



**Гуманітарная дапамога з Нямеччыны для вяскоўцаў Беларусі. Фатаграфаваў Б. МЕШЧАРАКОЎ.**

# ЗАМЕЖЖА

## Віленскія паведамленьні

У ЛЕТУВЕ налічваецца прыкладна 60 тысяч беспрацоўных. Менш за ўсё іх у Каўнасе, Марыямпале й Малетае. Павялічваюцца шэрагі рабочых. Складаней знайсьці працу па спэцыяльнасьці служачага, колькасьць якіх пастаянна скарачаецца.

ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА колькасьць людзей, якія не аплочваюць камунальныя паслугі. Згодна Пастанове Ўрада Летувіскай Рэспублікі «Аб цэнах у сістэме энэргэтыкі Летувіскай Рэспублікі» пастаўшчыкі энэргэтычных рэсурсаў, пасьля папярэджання спажыўца, праз 10 дзён, могуць адключыць і газу, і ацяпленьне, і электраэнэргію, калі той не разьлічыўся нават за адзін від энэргіі. Гэтыя санкцыі не датычацца толькі людзей, што сацыяльна падтрымліваюцца.

ВА ЎСХОДНЯЙ Летуве дзейнічаюць 168 летувіскіх, 25 расейскамоўных, 50 польскіх, 14 летувіска-расейскіх, 5 летувіска-польскіх, 41 расейска-польская, 12 летувіска-расейска-польскіх школ і ніводнай беларускай. У іх праходзяць навучаньне 49 877 чалавек. Зьменшылася колькасьць вучняў у расейскамоўных школах, затое павялічылася ў польскіх. Цяпер іх налічваецца 9184, усяго па Рэспубліцы — 15 312.

У КАНЦЫ навучальнага года выпускнікі летувіскіх школ будуць здаваць пяць абавязковых экзаменаў. Тры з іх аднолькавыя для выпускных класаў: па роднай і замежнай мовах і матэматыцы. Вучні нелетувіскіх школ дадаткова будуць здаваць экзамен па дзяржаўнай мове. Астатніх два абавязковых экзамены яны змогуць выбраць: летувіскую мову ці гісторыю вусна, а таксама адзін па натуральных навуках: хімія, біялогія, гэаграфія, фізіка. Упершыню дванаццацікласьнікі змогуць здаваць болей экзаменаў па выбару, калі ім гэта неабходна для паступленьня ў вну. Можна ўвогуле нічога не здаваць тады выпуснік атрымае толькі даведку аб заканчэньні школы.

З 5 КАСТРЫЧНІКА па 16 лістапада Салечніцкі (Шальчынінкайскі) тэрытарыяльны штаб абароны праводзіў 4-ы прызыў на тэрміновую вайсковую службу. Тэрмін яе па-ранейшаму — год, для асоб з вышэйшай адукацыяй — 6 месяцаў. На медкамісію было накіравана 259 юнакоў, на якую прыйшло 89,9 працэнта прызыўнікоў. З іх крыху болей трэці прызнаныя па стану здароўя годнымі да службы па ахове краю.

Тым, хто ўхіліўся, пагражаюць штрафы альбо турэмнае зьняволеньне.

**Па матэрыялах газэты «Шальчя».**

## Весткі з Польшчы

Заходнія палітолагі мяркуюць, што прыбліжэньне ўсходне-эўрапэйскіх дзяржаў да НАТО застаецца ў інтарэсе дэмакратычнай Расеі. На іх думку, Расея не будзе прэтэндаваць на права вета ў справах абаронча сувязяў усходне-эўрапэйскіх і прыбалтыйскіх дзяржаў. Сувязі былых сатэлітаў захаду стабілізуюць дэмакратыю на кантыненце і падмацоўваюць рэфарматарскія сілы ў Расеі.

Адносіны Захад — Расея — Усходняя Эўропа сталі тэмай некалькіх камэнтараў пасьля візыту міністра замежных спраў Польшчы А. Аляхоўскага ў Боне. Палякі з надзеяй глядзяць на Захад і з боязьню на Усход ды чакаюць пэрспэктывы бясьпекі Захаду.

●

«Б. Ельцын зьмяніў сваю пазіцыю ў справе членства Польшчы ў НАТО, бо адчуў нерашучасьць і эгаізм захаду»,— сказаў у інтэрв´ю «Бі-бі-сі» Л. Валэнса. Боязьнь заходніх палітыкаў перад Расеяй і пакіданьне сярэдняй Эўропы сам-насам з сабой прэзідэнт палічыў за дэзэртырства.

●

«У Амэрыцы ёсьць традыцыі і дэмакратычныя структуры. Яна эканамічна і мілітарна моцная і мае рацыю, кіруючыся гэтым вопытам. У нас іншы вопыт, і мы вымушаны карыстацца момантам, каб потым выконваць тое, што прапануе Амэрыка»,— сказаў Лех Валэнса, пракамэнтаваўшы амэрыканскую ініцыятыву «Партнёрства дзеля міру».

●

«Будучае членства Польшчы ў НАТО ня створыць пагрозы для Расеі»,— сьцьвердзіў сакратар прэзідэнта РП А. Джыцімскі. На яго думку, Польшча імкнецца стварыць у Эўропе стабільную сытуацыю, бо менавіта ў гэтым рэгіёне ўсталі найбольшыя канфлікты. Тут пачыналіся войны, якія заставаліся драмай усяго сьвету. Прэс-сакратар станоўча аднёсься да выказваньняў шэфа штаба Аб´яднаных Ўзброеных сілаў ЗША генэрала Джона Шалікашвілі, які сьцьвердзіў, што Расея ня будзе мець права вета ў справе прыняцьця усходне-эўрапэйскіх дзяржаў у НАТО.

●

Спэцыяльны пасланьнік прэзыдэнта ЗША пасол М. Оўбрайт і шэф штабу Аб´яднаных Ўзброеных сіл ЗША Д. Шалікашвілі сказалі ў Варшаве, што супрацоўніцтва з НАТО у рамках «Партнёрства дзеля міру» ня будзе непасрэдна весьці да членства ў Паўночна-Атлантычным пакце. На патрабаваньне польскіх афіцыйных колаў больш дэталёва акрэсьліць стратэгію НАТО да дзяржаў вышаградзкай групы генэрал Шалікашвілі адказаў, што не лічыць патрэбным назначыць дату і фармуляваць умовы прыняцьця новых членаў. Дадаў, таксама, што ні членства ў НАТО, ні гарантыя бясьпекі для дзяржаў Усходняй эўропы ня будуць разглядацца шэфамі дзяржаў-удзельнікаў НАТО у Брусэле.

●

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Беларусі ў Польшчы У. Сянько наладзіў 9 студзеня ў Беластоку ў рэстаурацыі «Асторыя» сьвяточны прыём. Сярод гасьцей прысутнічалі віцэ-прэм´ер У. Цімашэвіч, архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава, ваявода Беластоцкі С. Бруціс, беластоцкія парлямэнтарыі, прадстаўнікі ўладаў і дзеячы беларускіх арганізацыяў.

Пасол пажадаў беларусам у Польшчы ўсялякай памысьнасьці і еднасьці ў Новым годзе, гаварыў таксама аб супрацоўніцтве паміж Польшчай і Беларусьсю.

З беларускага боку ў прыёме ўдзельнічалі супрацоўнікі пасольства РБ, у тым ліку віцэ-консул генэральнага Консульства ў Беластоку І. Хадасевіч, старшыня Гарадзенскага аблвыканкама С. Домаш.

**Па матэрыялах польскага друку.**

## Што год наступны нам рыхтуе?

У 1993 годзе на Беларусі назіралася рэзкае павелічэньне колькасьці злачынстваў. За 11 месяцаў па рэспубліцы іх было зарэгістравана 91.452. Іх лік вырас на 5.900. Па Гарадзенскай вобласьці па лініі крымінальнага вышуку з студзеня па лістапад учынена 7.082 злачынствы, што на 1.204 болей, чым за адпаведны перыяд мінулага году. У прыватнасьці, на 39,1%, павялічылася колькасьць цяжкіх злачынстваў, у тым ліку забойстваў з замахамі на 12, цяжкіх цялесных пашкоджаньняў — на 61,7, разбойных нападаў на 40,7, рабаваньняў — на 49.6. Прыкладна 60 працэнтаў ад агульнай колькасьці злачынстваў склалі крадзяжы, у тым ліку дзяржаўнай маёмасьці — 1188, асабістай — 2.096, летась — 852 і 1857. Не назіраўся толькі рост эгвалтаваньняў, катаваньняў, аўтааварый з сьмяротным зыходам і выкраданьняў аўтамабіляў.

Для 1993 года характэрна таксама абвастрэньне праблемы фальшываманецтва. Калі летась было зафіксавана 3 выпадкі, то сёлета — звыш 70. Прыкмета апошніх трох месяцаў — выкрыцьцё падробленых разьліковых білетаў Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь, у першую чаргу вартасьцю 500 рублёў, за гэты час зарэгістравана 12 фактаў. Так, у лістападзе супрацоўнікамі УУС аблвыканкама затрымана трое жыхароў Магілёўскай вобласьці, якія спрабавалі на рэчавым рынку збыць такія купюры, агульнай колькасьцю ў 7 мільёнаў рублёў.

Зафіксавана 128 злачынстваў з прымяненьнем халоднай і вогнестрэльнай зброі, выкрыта 29 выпадкаў яе незаконнага захоўваньня.

Па росту зьдзейсьненых злачынстваў сярод раёнаў Гарадзеншчыны лідэрамі зьяўляюцца Іўеўскі й Сьвіслацкі, там іх рост склаў адпаведна 83 і 71 працэнт.

Актывізацыі крымінальнага элементу садзейнічае й паліўна-энергэтычны крызіс. З-за дрэннай работы грамадзкага транспарту людзі вымушаны хадзіць пешкі і па неасьветленым вуліцам. Толькі ў Горадні зафіксавана 97 вулічных злачынстваў: рабаваньняў, разбойных нападаў.

Непакоіць той факт, што 905 злачынстваў учынена непрацуючымі, 957 — раней асуджанымі, 690 — непаўналетнімі ці з іх удзелам, 1554 — асобамі ў нецьвярозым выглядзе, у той жа час апошнія ў 90 працэнтаў выпадкаў самі станавіліся ахвярамі злачынцаў.

Адначасова на 1,6 працэнта павялічылася раскрыцьцё злачынстваў: яно склала амаль 75 працэнтаў. Лепшыя сілы праваахоўных органаў накіроўваюцца на выкрыцьцё цяжкіх злачынстваў. Стопрацэнтнае іх расьледаваньне зарэгістравана ў Бераставіцкім, Дзятлаўскім, Іўеўскім і Сьвіслацкім раёнах. А па вобласьці выкрыта 94,4 працэнта забойстваў. Бераставіцкім, Воранаўскім і Слонімскім РАЎС не дапушчана павялічэньне колькасьці злачынстваў.

Нядрэнна папрацаваў апарат БЭЗ: яго супрацоўнікамі выкрыта злачынстваў на 18 працэнтаў болей, чым летась.

Пасьля перамены месца рэчавага рынку колькасьць учыненых там злачынстваў зьменшылася ў 5 разоў. Прыносіць плён ахова кватэр з дапамогай тэхнічных сродкаў — ніводнай з іх не абрабавалі. Не зафіксаваныя злачынствы ў лясным масіве Пышкі ў Горадні, які патрулюе конная міліцыя. Для больш эфэктыўнага яе выкарыстаньня УУС аблвыканкама мяркуе набыць спэцыяльны аўтафургон для дастаўкі жывёл, пры неабходнасьці, ў іншыя месцы.

У аддзелах міліцыі створаны групы, якія займаюцца выкрыцьцём толькі кватэрных крадзяжоў. Заведзена відэатэка на найбольш небясьпечных злодзеяў краін СНД і Рэспублікі. Па лініі БЭЗ створана падатковая паліцыя, падразьдзяленьні па барацьбе з фальшываманецтвам, па выяўленьню злачынстваў у зоне мытнага кантролю, па барацьбе са злачынствамі ў крэдытна-фінансавай сфэры. Для прадухіленьня найбольш небясьпечных злачынстваў створана група спэцыяльнага прызначэньня. Штодзённа на вуліцы Горадні выходзяць 70 няўзброеных міліцыянераў з ліку вайскоўцаў. З іх дапамогай павялічваецца зона патруляваньня, у якой учынена толькі 10 працэнтаў злачынстваў.

**А. ДУК.**

## Круглы стол на зьезьдзе

Сёньня старшыня круглага стала — настаяцельніца Сьвятанароджанага багародзіцкага кляштара матушка Гаўрыіла — госьць рэдакцыі «ПАГОНІ».

— Сама ідэя правядзеньня зьезду абатаў узьнікла даўно. Зьезды праводзіліся раней, але прадстаўнікі з Усходняй Эўропы ўзялі ўдзел упершыню. З гонарам зазначу, што Сьвяцейшы Патрыярх Усея Русі даверыў мне ўзначаліць дэлегацыю з абшараў СНГ. На жаль, дэлегацыя была невялічкая — ўсяго два чалавекі.

**— Мэты зьезду абатаў?**

— Першаснай мэтай зьезду было вывучэньне праблемаў адновы манаскага руху на аблогах СССР. Найбольш дэлегатаў цікавіла справа адраджэньня жаночага манаства. Я выступіла з дакладам па гэтаму пытаньню. Думаю, што даклад атрымаўся грунтоўны аб´ектыўным, бо пасьля майго выступу мне прапанавалі ўзначаліць круглы стол.

**— Якія праблемы былі ўзьняты ў вашым дакладзе?**

— Цяжка было пераканаць прысутных у тым, што ганеньне на хрысьціянскую веру ў краінах — былых рэспубліках СССР — спынена. Яшчэ цяжэй даказаць, што нашы вернікі — гэты звычайныя, нармальныя людзі. Сумна было адчуваць, што прысутныя на зьездзе ўспрымалі нас, і я не пабаюся гэтага слова, «саўком». Дзякуючы майму імпэтнаму і аб´ектыўнаму дакладу атмасфэры на зьезьдзе наўкол пацяплела. Усчуўшы пра нашыя праблемы, а гэта няўладкаванасьць, разбуранасьць, прыніжэньне, зьезд адзінагалосна прыняў пастанову аб матэрыяльнай дапамозе руху манахаў.

**— У чым дапамога будзе выяўляцца?**

— Манаскі рух — гэта найперш дабрачыннасьць. А як мы можам стварыць дабрат, калі нам самім трэба дапамагаць. Таму зьездам і вырашана дапамагчы нам збудаваць некалькі невялікіх заводаў для выпячкі таннага хлеба, які б мы маглі разьмяркоўваць сярод бедных. Такая практыка скарыстоўвалася раней у Румыніі. Там манахі пры дапамозе аб´яднаньня манаскага руху Заходняй Эўропы збудавалі такія заводы-печы. Плён ад іх немалы.

**— Але для працы заводаў патрэбны спэцыялісты. Дзе вы іх зьбіраецеся рыхтаваць?**

— Таксама за лік манаскага аб´яднаньня Эўропы плянуецца стварэньне каледжаў, у якіх будуць рыхтавацца неабходныя кадры.

**— Што найбольш ўразіла вас на зьезьдзе?**

— Высокі інтэлектуальны ўзровень дэлегатаў. Яшчэ на Захадзе я ўбачыла, што кожны самы звычайны манах валодае шасьцю-васьмю мовамі. У нас жа ўсё наадварот. Так што Эўропа — гэта ня толькі напоўненыя паліцы крамаў. Эўропа — гэта, найперш, высокая культура, адпаведныя адносіны да традыцый і спадчыны.

**— Ці плануюцца зьезды абатаў на нашай тэрыторыі?**

— Пакуль што не. Наступны пройдзе ў красавіку ў Парыжы. І скончыцца ў ліпені ў Мадрыдзе. Дарэчы, нас туды таксама запрасілі.

**— Дзякуй Вам, матушка Гаўрыіла. Запрашаем Вас зноў да сябе ў госьці пасьля чарговага зьезду абатаў з новымі навінамі.**

**Гутарыў Г. АСТРОЎСКІ.**

